Гаючая флора

# Таполя

Богі падарылі гэтае дрэва працаўнікам, тым, хто ўмее працаваць, змагацца, пакутваць і ўздымацца пасля падзення.

Таполя «адбірае» ў чалавека дрэнную энергію. Стагоддзямі высаджвалі тапаліныя алеі ў панскіх «гнёздах» і прысады ўздоўж дарогі, каб дарога была лёгкай і ўдалай. Прайдзіцеся па алеі з пірамідальнымі таполямі і незаўважна адпусціць галаўны боль.

У мінулыя часы дарога, вёска ці сядзіба не ўяўляліся без гэтых прыгажунь. Яны добра растуць на вільготным грунце, паблізу рэк і сажалак.

У сакавіку-красавіку, да з'яўлення лістоты, варта сабраць пупышкі. У пачатку траўня збіраюць і сушаць маладыя лісточкі.

Лісце і пупышкі як лячэбны сродак выкарыстоўваюцца тысячагоддзі. Цудоўна дапамагаюць пры захворваннях нырак, цыстыце, неўтрыманні мачы, хваравітым мочаспусканні, атаніі кішэчніка, запорах, гемарoі, пры войстрых запаленчых захворваннях верхніх дыхальных шляхоў (садзейнічае аддзяленню макрот, асабліва гнойных). Выкарыстоўваюцца для вонкавага лячэння пры язвах, апёках, дэрматытах, ударах, пры багатым выпадзенні валасоў. Здымаюць боль пры падагры і рэўматызме (кампрэсы).

Нізкім паклонам трэба пакланіцца перад таполяй. Яна дапаможа пазбавіцца ад прастатыту, адэномы прастаты, трыхаманаднага кальпіту, садзейнічае рэгуляцыі менструальнага цыклу.

**Рэцэпт:** 2 ст. лыжкі здробненых лісцяў ці пупышак на 1,5 шклянкі вару. Настойваюць 15 хвілін. Працадзіць. Піць за 4-5 прыёмаў на працягу дня.

Можна прыгатаваць настойку пупышак і кветак.

**Рэцэпт:** 2 чайныя лыжкі здробненай сыравіны на 1/2 шклянкі гарэлкі. Настойваць 7 дзён. Піць па 20 кропель 3 разы ў дзень пасля яды.

Прымяняецца для сідзячай ванны.

**Рэцэпт:** 3 ст. лыжкі здробненых пупышак кіпяціць у 4 шклянках вады 5 хвілін. Настойваць 4 гадзіны. Працадзіць. Выліць у ванну. Рабіць штодзённа 11-13 дзён.

**Рэцэпт мазі:** прыгатаваць парашок з пупышак (1 частку), дадаць свежае сметанковае масла (4 часткі), можна несалёнае свіное сала.

З народнага лячэбніка

# Астма і карысныя звесткі для астматыкаў

Астма — вынік лішку слізі ў арганізме. Таму найпершым сродкам лячэння астмы з'яўляецца соўс з хрэну і лімоннага соку.

Надраць на драчцы хрэн і ўзяць адну чвэрць пінты; дадаць у тую ж бутэльку сок двух ці трох лімонаў. Атрымаецца даволі густы соўс. Прымаць паўчайнай лыжкі раніцай і столькі ж пасля поўдня, штодзённа. Канешне, гэта выкліча багатае слёзацячэнне, але не варта звяртаць увагі на гэткія дробязі і настойліва працягваць лячэнне даволі працяглы час. Не варта падмешваць да гэтага соўсу нічога іншага, бо ўсякае разбаўленне моцна зніжае гаючыя ўласцівасці лякарства. Не варта таксама піць ваду ці іншыя напоі адразу пасля ўжывання лякарства, а пачакаць хаця б паўгадзіны. Праз некалькі тыдняў (а іншы раз і месяцаў) хворы больш не будзе «плакаць» пры ўжыванні лякарства: чым менш застанецца слізі ў арганізме, тым менш ён будзе «выбіваць» слёз. Дакладна ўстаноўлена, што гэты соўс не раздражняе нырак, жоўцевага пузыра і сценак кішак.

***Заўвага:*** *хрэн павінен быць свежым, не больш тыднёвай даўнасці. Соўс можна захоўваць у ледніку параўнальна доўгі час.*

Народныя замовы

# На каханне – тугу

Зара-зараніца, Божая святліца, зара ранішняя, зара паўдзённая, зара вячэрняя! Сыдзіцеся ўсе тры зары разам, знясіце з рабы Божай (такойсці) тугу-сухоту, смутак-бяссонніцу, маркотушку! Аднясіце да раба Божага (такого-сь) у пячонкі, у селязёнкі, не дайце рабу Божаму (такому-сь) ні спаць, ні ляжаць, ні піць, ні есці, дзе б рабу не спалася, не замыкалася, не пілося не елася, каб раб Божы (такі-сь) гараваў-таміўся, смуткаваў-сушыўся па рабе Божай (такойсці), дайце такую іскарку кахання, каб кроў кіпела і сэрца гарэла, як агонь у печы, па рабе Божай (такойсці), з гэтага дня, з гэтай гадзіны, з гэтай хвіліны, Амін!

Замову чытаць 9 дзён запар (9 разоў на зары і 9 разоў вечарам).

Што ў імені тваім?

## Ларыса

Тонкая, чуллівая і лёгкаранімая натура са слабым характарам. Калі выйдзе замуж, не спрабуе займацца перавыхаваннем свайго мужа, прымаючы яго такім, які ён ёсць, з усімі яго недахопамі. Пяшчотная і верная жонка, яна не даруе здрады мужа.

Шчаслівым будзе шлюб з Аркадзем, Афанасіем, Георгам, Максімам, Юрам. Ад шлюбу лепш устрымацца з Рыгорам, Іванам, Эдуардам.

## Ірына

Улюбчывая натура, але галавы ў захапленнях не губляе, заўсёды імкнецца захаваць незалежнасць. Будзе вернай жонкай і любячай маці. У яе жыцці істотную ролю адыгрывае і прафесійная дзейнасць.

Шчасліва складзецца шлюб з Барысам, Іванам, Андрэем, Леанідам, Сяргеем, Сцяпанам. Менш удала — з Валерам, Дзмітрыем, Канстанцінам, Раманам.

## Вікторыя

Мужа выбірае асабліва пільна, ставячы высокія патрабаванні і валодаючы пэўнай нерашымасцю. Выйшаўшы замуж становіцца ўпэўненай у сабе, любячай і шчырай жонкай, якая гатова на любыя ахвяры дзеля мужа.

Спрыяльны шлюб з Аляксандрам, Уладзімірам, Міхасём, Львом, Сяргеем, Сямёнам, Эдуардам. Хутчэй за ўсё шлюбныя адносіны не складуцца з Віталем, Дзмітрыем, Рыгорам, Юрасём.

## Анекдот

Мужчына едзе на кані. Ззаду яго ідзе цяжарная жонка. Людзі яго вітаюць:

— Ассалам алейкум, Чынгіз! Куды трымаеш шлях так раненька?

— Ды вось, жонку ў радзільны дом вязу...




**Абанент N 25**

**Ганна.** 57 гадоў. Рост — 164 см, вага — 57 кг, адукацыя вышэйшая. Дзеці жывуць асобна. Жыву з сястрою. Сімпатычная, добрая, сціплая, не пазбаўлена пачуцця гумару, аптымістка.

Пазнаёмлюся з інтэлігентным, добрым, непітушчым мужчынам, якому буду вернай сяброўкай, які мае сваю жылплошчу. Згодная на пераезд. Шукаю не прыгажуна, а чалавека з добрай душою.

**Мой адрас: 222410, Мінская вобл., г. Вілейка, вул. Горкага, д. 49, кв. 2.**

Куток гаспадыні

## Арэхавы соус да зялёнага квасолю

**(французская кухня)**

*100 г ядраў грэцкіх арэхаў, 100 г цыбулі, 50 г зеляніны пятрушкі, часнок, воцат, соль, чырвоны перац па смаку.*

Арэхі здрабніць, дадаць соль, часнок, перац, нарэзаць цыбулю рэпчатую і зялёную, зеляніну пятрушкі. Добра ўсё перамяшаць. Развесці воцатам. Падаць соус як падліўку да адварнога стручковага квасолю.

## Гарбуз, запечаны з вяршкамі

*800 г гарбуза, 2 яйкі, 3/4 шклянкі вяршкоў, 2 ст. л. сметанковага масла, 1 ст. л. цукру, соль.*

Гарбуз нарэзаць скібачкамі, абваляць у муцэ, абсмажыць з абодвух бакоў на патэльні з маслам. Заліць узбітымі яйкамі з вяршкамі, соллю і цукрам. Запекчы ў духоўцы да ўтварэння румянай скарынкі.

## Хатні напой

У 0,5 л гарачай моцнай кавы дадаць 3-4 ст. л. пчалінага мёду і цукар па смаку. Затым астудзіць і дадаць 0,25 л халоднага малака і 0,25 л мінеральнай вады.

Чаму ўсё так засакрэчана?

# Заява археолагаў

Беларускія археолагі, якія прымалі непасрэдны удзел у працы ўрадавай камісіі 1988 г. па расследаваннях выяўлення чалавечых парэшткаў у Курапатах, выдалі сваю заяву — у сувязі з тым, што апошнія гады ў дзяржаўных СМІ навязваецца меркаванне пра «нямецкі след» у Курапатах. Яны ізноў нагадваюць: адназначнае афіцыйнае заключэнне ўрадавай камісіі 1988 г., што ў Курапатах з другой паловы 1930-х гадоў і да пачатку вайны ў 1941 годдзе вялося масавае знішчэнне людзей органамі НКВД БССР, застаецца непарушным. У 1997-1998 г.г. цягам аднаўленага следства па Курапатах таксама не было знойдзена ніякага «нямецкага следу». Археолагі маюць такую ўпэўненасць, нягледзячы на тое, што інфармацыя па гэтым расследванні дагэтуль засакрэчаная.

На думку навукоўцаў, засакрэчанасць і недаступнасць для шырокіх грамадскіх колаў вынікаў апошняга следства па Курапатах ёсць спроба наўмыснага хавання новай інфармацыі і адначасова яшчэ адно пацверджанне злачынстваў НКВД ў Курапацкім лесе.

**«БМ».**

# Электраэнергія падаражэла

З 16 лістапада вяскоўцам і гараджанам, у якіх устаноўлены электрапліты, трэба плаціць за 1 кВт/ч 13,9 рубля. Астатнім гараджанам — 19,2 рубля.

# «Беларускі Ўсход» — 2002



***Ідзе падпіска на І паўгоддзе 2002 года***

Вы хочаце ведаць Праўду,
адну праўду і толькі праўду?
Вы хочаце атрымліваць
добрыя парады
на ўсе выпадкі жыцця?
Вы любіце гумар, анекдоты,
выказванні мудрацоў?
Вас цікавіць расповяд
пра сівую даўніну,
сучаснае і прадказанні прарокаў?
Вы хочаце напісаць у газету
пра штосьці набалелае,
і пісалі ўжо не ў адну,
ды не друкуюць?
У такім разе
Выпісвайце «Беларускі Ўсход»!
Чытайце і самі пішыце
і дасылайце ў рэдакцыю свае лісты
пра набалелае, пра цікавае,
наогул пра што хочаце,
і задавайце свае пытанні.

**Кошт падпіскі на «Беларускі Ўсход»:**
**на 1 месяц — 568 рублёў;**
**на 2 месяцы — 1136 рублёў;**
**на 3 месяцы — 1704 рублі;**
**на 6 месяцаў — 3408 рублёў.**
**Добрага вам здароўя і шчаслівай будучыні!**
**Калектыў рэдакцыі.**




***"Беларускі Ўсход"***

Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета.

На беларускай і рускай мовах.

***Заснавальнік*** — рэдакцыя газеты «Беларускі Ўсход».

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ**

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н,
Магілёўская вобл., 213670.
Тэлефон галоўнага рэдактара 22-9-89

**Рэгістрацыйны N 141**

Падпісны індэкс — 64098

*Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.*

*За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.*

Газета падпісана да друку
ў 16 гадзін 28 лістапада 2001 г.
Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні,
вул. Першамайская, 70.
**Наклад 1420 ас.** Аб'ём І друк. аркуш. **Заказ № 43.**